*Улада рыхтуецца рэферэндумам астудзіць «гарачую восень» (стар. 2)*

*Выбух на вуліцы Усходняй (стар. 4)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 41.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

25 чэрвеня 1996 г. | № 46 | Кошт свабодны

## Урок перамір'я, які прыйшоўся на дзень пачатку вайны

*Па ацэнках сталічнай міліцыі, каля 15 тысяч мінчан прынялі ўдзел у мерапрыемствах, прысвечаных 22 чэрвеня*

Умоўна гэтыя 15 тысяч можна падзяліць на дзве часткі ў прапорцыі 2:1. Першая (большая) прыйшла на плошчу Перамогі пад чырвона-зялёнымі сцягамі і пасля ўскладання кветак паступова схавалася ад даждж у гушчары парку імя Горкага. Другая частка (пад нацыянальнымі сцягамі) гэтак жа арганізавана ўсклала кветкі да Вечнага агню і па набярэжнай Свіслачы прайшла да Опернага тэатра. Там адбыўся мітынг, тэма якога была пашырана ад памяці ахвяр II сусветнай вайны да пратэсту супраць сучасных праяваў таталітарызму.

Незвычайнымі рысамі дня можна лічыць карэктныя паводзіны міліцыі, добрую арганізацыю самаахвовы бел-чырвона-белай калоны і дождж, ад якога дасталося ўсім (асабліва міліцыянтам, якім замест дубінак не пашкодзіла б мець у той дзень парасоны). Сухімі засталіся толькі байцы амону і спецназа, якія адсядзеліся ў аўтобусах. А гэта значыць, што іх камандзіры наўрад ці могуць у гэтым месяцы разлічваць на дзяржаўныя ўзнагароды і каштоўныя падарункі, да якіх яны ўжо прызвычаіліся.

У палітычным сэнсе галоўны вынік падзеі — той факт, што 22 чэрвеня стала днём перамір'я. Уладам хапіла розуму даць дазвол на акцыю апазіцыі (раней менавіта адмова ў праве на дэманстрацыю стымулявала актыўнасць удзельнікаў несанкцыянаваных акцый). Да таго ж было бачна, што ўрок з падзеяў 26 красавіка зрабіла і апазіцыя. На гэты раз узровень арганізаванасці і самаахвовы яе калоны быў настолькі высокі, што не даваў ніякіх шанцаў магчымым правакатарам.

Другі важны вынік дня — ніякіх сутычак паміж правымі і левымі (як гэта прагназавалася некаторымі) не здарылася. Відавочна, што ідэолагамі сённяшняй партыі ўлады менавіта гэтая канфрантацыя разглядаецца як галоўная ўмова свайго панавання. Аднак у чарговы раз спроба распаліць варожасць паміж нацыяналамі і бальшавікамі не праходзіць. Апошні раз тое ж самае спрабавалі зрабіць 1 траўня, калі ў адным месцы (на плошчы Незалежнасці) аказаліся разам прадстаўнікі супрацьлеглых палітычных плыняў. Аднак ідэалагічныя спрэчкі паміж імі не закончыліся бойкамі. Цяпер вырашана было падрыхтавацца лепш. Невыпадкова ў горадзе з'явіліся фальшывыя ўлёткі, якія, быццам бы ад імя БНФ, заклікалі біць маскалёў і ратаваць Беларусь. На гэтую правакацыю зрэагавалі толькі некаторыя аглядальнікі дзяржаўных газет ды актывісты Саюза афіцэраў, якія папярэдзілі: «Толькі суньцеся на плошчу нашай Перамогі...»

Пяцітысячная калона пад бел-чырвона-белымі сцягамі прайшла побач з абеліскам спакойна і годна, прадэманстраваўшы ўсім: Перамогу нельга дзяліць, тым больш, што галоўная перамога яшчэ наперадзе. Бо разбіты толькі фашызм, які прыйшоў на нашу зямлю 22 чэрвеня 1941 года. Іншых праяваў таталітарызму, як ранейшых, так і пазнейшых, яшчэ хапае.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**22 чэрвеня ў другой палове дня расійскі прэзідэнт Б.Ельцын на некалькі гадзінаў прыляцеў з Масквы ў Брэст, дзе выступіў на мітынгу.**

*На здымку: С.Шарэцкі, А. Лукашэнка, Б.Ельцын, мітрапаліт Філарэт у Брэсцкай крэпасці.*

## Чарговы «прыкол» легендарнага палкоўніка

**Журналісты павінны быць удзячныя Уладзіміру Замяталіну, бо таварыш палкоўнік заўсёды дае прэсе што-небудзь вясёленькае.**

Гэтымі днямі ў парламенцкіх колах жыва абмяркоўваецца апошні «прыкол» Замяталіна. Легендарны палкоўнік у афіцыйным лісце на імя старшыні ВС Сямёна Шарэцкага запатрабаваў разабрацца з дэпутатам Шушкевічам ды прызначыць псіхіятрычную экспертызу, каб праверыць яго «на предмет вменяемости». Па словах аднаго дэпутата, Шарэцкі вельмі сур'ёзна ўспрыняў «прыкол» і накіраваў гэты ліст на імя прэзідэнта Лукашэнкі з просьбай «оградить» яго (г.зн. Шарэцкага) ад падобных пасланняў.

*У.Замяталін*

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Прэзідэнт прыгразіў «жалезнай заслонай»

**Хвалю самых розных чутак выклікала заява прэзідэнта Лукашэнкі аб тым, што з 1 ліпеня будзе ўведзены такі рэжым, каб ніводзін грамадзянін нашай краіны без дазволу ўлады не мог выехаць за мяжу. «Няўжо аднаўляецца жалезная заслона часоў СССР?» — з такім пытаннем звяртаюцца ў СВАБОДУ шматлікія чытачы.**

З апублікаванай у суботу інфармацыі БелТА вынікае, што права на свабодны выезд за мяжу прэзідэнт збіраецца абмежаваць толькі для чыноўнікаў і дэпутатаў. Тлумачыцца гэта быццам бы мэтамі эканоміі бюджэтных сродкаў.

І ўсё ж пакуль няма падставаў, каб сцвярджаць, што сапраўды з 1 ліпеня ўсе свае замежныя камандзіроўкі чыноўнікам і дэпутатам давядзецца ўзгадняць асабіста з прэзідэнтам. «Прыблізна такое распараджэнне рыхтуецца, але да названага тэрміну яно наўрад ці будзе падпісанае», — патлумачыў СВАБОДЗЕ дарадца прэзідэнта Сяргей Посахаў пасля таго, як высветліў справу ў юрыстаў адміністрацыі. Ён, аднак, ніяк не пракаментаваў сам факт з'яўлення гэтай ініцыятывы А.Лукашэнкі.

Затое гэтая навіна, безумоўна, не выклікала энтузіязму ў заканадаўцаў. Намеснік старшыні парламенцкай камісіі па правах чалавека Уладзімір Нісцюк, напрыклад, не ўтойваў, што гэтая ініцыятыва прэзідэнта яго «літаральна ашаламіла». Дэпутат заявіў, што прэзідэнт павінен кіравацца ў сваіх дзеяннях Канстытуцыяй РБ, артыкул 30 якой гарантуе ўсім грамадзянам права свабодна пакідаць краіну і вяртацца назад. «Пакуль не прыняты закон, які б распісаў гэтае права, і таму дзейнічаюць старыя нормы, але толькі ў той частцы, якая не супярэчыць Канстытуцыі. Цяпер новы закон падрыхтаваны, разгляд яго пачнецца ў парламенце восенню. А пакуль ніякіх прававых падставаў змяняць сённяшнюю практыку выезду за мяжу ні ў кога няма», — сказаў У.Нісцюк.

На ягоную думку, прэзідэнт усё ж мае права ўносіць пэўныя абмежаванні, але толькі для чыноўнікаў, якія яму падкантрольныя, і толькі па сур'ёзных матывах. Што ж тычыцца парламента, то паводле закона ён сам вызначае суму сваіх камандзіровачных выдаткаў, а дэпутаты ў паездках за мяжу кіруюцца існуючым заканадаўствам. Па дадзеных дэпутата, за першыя пяць месяцаў 1996 года расходы на камандзіровачныя ў дэпутатаў склалі ўсяго 11 тысяч долараў, што ў некалькі разоў меней сумы, якую вызначыў Вярхоўны Савет на гэты перыяд. «Большасць нашых паездак звычайна аплочвае прымаючы бок», — патлумачыў У.Нісцюк.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Лёс арыштаваных у Мінску ўкраінцаў вырашаецца праз Чачню?

**Украінская арганізацыя УНА-УНСО спрабуе з дапамогай чачэнскай апазіцыі вызваліць з мінскай турмы 7 сваіх суайчыннікаў, якія былі арыштаваныя ў Мінску 26 красавіка.**

Гаворка ідзе пра тое, каб абмяняць зняволеных украінцаў на расійскіх ваеннапалонных, якія знаходзяцца ў руках чачэнцаў. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску адзін з кіраўнікоў УНА-УНСО, дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны Юры Тыма. Ён сказаў, што УНА-УНСО ўжо правяла перамовы наконт абмену з лідэрам чачэнскай апазіцыі З.Яндарбіевым, які, па словах Ю.Тымы, згадзіўся на такі варыянт, і цяпер чачэнцы вядуць перамовы з расійскім бокам.

«Калі Масква пагодзіцца на такі абмен, то Лукашэнка трапляе ў досыць складаную сітуацыю, — кажа дэпутат Тыма. — У выпадку, калі ваш прэзідэнт адмовіцца ад прапановы Расіі, гэта будзе азначаць, што Мінск і Масква не маюць сур'ёзных сувязяў. І наадварот: калі Лукашэнка згодзіцца на абмен, можна будзе ўпэўнена сцвярджаць, што ён цалкам прадаўся Расіі».

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Улада рыхтуецца рэферэндумам астудзіць «гарачую восень»

**20 чэрвеня Лукашэнка паведаміў аб сваім жаданні «параіцца з народам». Ідэя наколькі прымітыўная, настолькі ж эфектыўная — атрымаць на рэферэндуме чарговую «перамогу».**

У тэксце прамовы прэзідэнта на нарадзе з «вертыкаллю» 20 чэрвеня, які надрукавалі ўсе афіцыйныя газеты, жадання «параіцца з народам» вы не знойдзеце. Рэч у тым, што ў нашай краіне такі своеасаблівы кіраўнік, які ўсё самае важнае звычайна «нараджае» экспромтам.

Так было і на гэты раз — словы аб неабходнасці «параіцца з народам» не трапілі ў загадзя падрыхтаваны тэкст выступлення. Аднак ні ў якім разе нельга лічыць, нібыта Лукашэнка зноў ляпнуў нешта недарэчнае (як гэта часта з ім здараецца). Тут, здаецца, усё наадварот — прэзідэнт Беларусі раскрыў сваю палітычную стратэгію на бліжэйшыя месяцы.

Эканамічная сітуацыя пагаршаецца, жыццёвы ўзровень падае, расце незадаволенасць людзей. Пасля летніх адпачынкаў, якія на многіх заводах пачаліся ўжо ў чэрвені, рабочыя вернуцца на свае «запушчаныя» прадпрыемствы. Да таго ж скончыцца эйфарыя пэўнай часткі насельніцтва ад стварэння беларуска-расійскага супольніцтва, і ў гэтых людзей выспее лагічнае пытанне: «Дзе ж вынік? Чаму мы не сталі жыць лепей?»

У такой сітуацыі для Улады застаецца адзіны, але самы эфектыўны сродак маніпуляцыі масавай свядомасцю — гэта рэферэндум. Вядома ж, для ўсенароднага галасавання будуць абраныя толькі такія пытанні, якія гарантуюць выканаўчай уладзе падтрымку большасці. Лукашэнка ўжо заявіў, што жадае параіцца з народам па наступных праблемах: работа органаў мясцовай улады, прыватная ўласнасць на зямлю, пашырэнне *NATO* на Ўсход, асобныя артыкулы Канстытуцыі.

Напэўна, у першым пытанні размова пойдзе аб скасаванні мясцовых Саветаў, якія даўно не ўпісваюцца ў лукашэнкаўскую «вертыкаль». Аднак самым разбуральным для беларускага грамадства можа стаць пытанне аб зменах у Канстытуцыі, якое хутчэй за ўсё будзе тычыцца змянення паўнамоцтваў Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда.

Пытанне аб прыватнай уласнасці на зямлю мае відавочны передвыбарчы накірунак: «волевыяўленнем народа» нанесці ўдар па дэмакратах, якія адстойваюць ліберальныя прынцыпы рынкавай эканомікі. Пры гэтым Лукашэнка ўжо цяпер робіць усё, каб замежныя інвестары фактычна маглі валодаць беларускай зямлёй, але называецца гэта паіншаму — «доўгатэрміновая арэнда», напрыклад на 99 гадоў. Заадно беларускі прэзідэнт у вачах заходніх бізнесменаў хоча выглядаць гэткім дабрадзеем: глядзіце, маўляў, дзеля вас, дзеля нашага супрацоўніцтва я нават іду супраць волі народа, аддаю вам родную зямельку.

Самым цынічным, вядома ж, стане пытанне аб пашырэнні *NATO*. З гэткім жа поспехам можна даведацца меркаванне беларускага народа наконт аб'яднання Сенегала і Замбіі. Вынікі рэферэндуму па гэтай праблеме будуць мець рэальнае значэнне толькі для дзвюх структур — адміністрацыі Лукашэнкі і Генеральнага штаба расійскай арміі.

Зрэшты, і сам ініцыятар масавай пастаноўкі ні ў якім разе не разлічвае, што пасля рэферэндуму *NATO* распусціцца ці хаця б памяняе сваю стратэгію, пачне пашырацца куды-небудзь на поўдзень. Сутнасць пытанняў увогуле не такая істотная для Лукашэнкі: галоўнае — паставіць іх такім чынам, каб атрымаць найбольшую колькасць галасоў. Чакаецца «гарачая восень» са страйкамі і масавымі выступленнямі. На канец лістапада прызначаныя давыбары ў Вярхоўны Савет. Ідэя Лукашэнкі простая да непрыстойнасці — зноў прымусіць людзей абмяркоўваць не эканамічнае становішча ў краіне, а нейкія ўяўныя праблемы, падключыць ірацыянальныя пачуцці. Падзенне жыццёвага ўзроўню насельніцтва прэзідэнт збіраецца «кампенсаваць» чарговай прапагандысцкай перамогай савецкай большасці над беларускай меншасцю. А на чале калоны пераможцаў — ён, Лукашэнка, на белым кані.

Гэты сцэнарый можа стаць сумнай рэальнасцю, калі ўжо цяпер не прымаць нейкія прэвентыўныя захады. Фактычна процістаяць чарговаму масаваму псіхозу можа толькі парламент, які, паводле заканадаўства, павінен зацвярджаць пытанні рэферэндуму. Адзіны шанц спыніць Лукашэнку — гэта вылучыць альтэрнатыўныя пытанні накшталт: «Ці задаволеныя вы праводзімай эканамічнай палітыкай?» альбо «Ці задаволеныя вы сваім матэрыяльным становішчам?».

Зрэшты, пры любым, нават самым удалым, варыянце шанцы ў дэмакратаў не надта вялікія — беларусы, на жаль, ніколі не ўмелі сказаць «не».

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Прэзідэнт сказаў. Палітыкі рэагуюць

*Заявы прэзідэнта А.Лукашэнкі, зробленыя ім 20 чэрвеня падчас сустрэчы з прадстаўнікамі мясцовай выканаўчай улады, выклікалі ў палітычных колах адпаведныя каментарыі*

Член камісіі па міжнародных справах, старшыня Вярхоўнага Савета папярэдняга склікання **Мечыслаў Грыб** падкрэсліў, што пытанні, якія выносяцца на рэферэндум, не павінны супярэчыць заканадаўству. Пры гэтым ён заявіў, што пытанне аб пашырэнні *NATO — «ни к селу ни к городу»*, бо Беларусь не прэтэндуе на ўступленне ў гэтую арганізацыю, а вынікі рэферэндума *NATO* зусім не абавязанае браць пад увагу. На думку М.Грыба, новыя ініцыятывы прэзідэнта могуць канчаткова прывесці Беларусь да міжнароднай ізаляцыі.

Лідэр парламенцкай апазіцыі **Станіслаў Багданкевіч** заявіў, што хоць Аб'яднаная грамадзянская партыя і выступае супраць размяшчэння ядзернай зброі ў суседніх краінах, але правядзенне рэферэндума па пытанні пашырэння *NATO* ён лічыць абсалютным глупствам.

Лідэр аграрнай фракцыі парламента **Мечыслаў Гіруць** сказаў, што ён здзіўлены намерам прэзідэнта правесці рэферэндум па пытанні аб прыватнай уласнасці на зямлю. *«Сёння парламент па ініцыятыве прэзідэнта прыступіў да разгляду закона аб прыватнай уласнасці на зямлю ў першым чытанні, і гэта гаворыць само за сябе»*, — заявіў М.Гіруць.

Каментуючы магчымасць увядзення больш жорсткіх правілаў выезду грамадзянаў Беларусі за мяжу, старшыня парламенцкай падкамісіі па правах чалавека **Аляксандр Дабравольскі** заявіў: *«Гэта можа стаць апошняй кропляй, якая перапоўніць чашу нашага цярпення, і выліцца ў імпічмент прэзідэнта»*. Пры гэтым А.Дабравольскі адзначыў, што заява прэзідэнта супярэчыць не толькі законам Беларусі і Канстытуцыі, якая гарантуе грамадзянам права свабоднага перамяшчэння, але і міжнародным актам, якія ратыфікавала Беларусь, у тым ліку Канвенцыі па правах чалавека.

*СІМ*

## Еўрапейскі Саюз ставіць пад сумненне самастойны статус Беларусі

**Савет Еўропы прыпыніў разгледжанне пытання аб магчымасці далучэння Беларусі да шэрагу канвенцый, прынятых у рамках Еўрасаюза.**

Звязана гэта з тым, што дакументы Еўрасаюза могуць быць падпісаныя толькі суверэннымі рэспублікамі, а заключаны паміж Беларуссю і Расіяй дагавор аб стварэнні Супольнасці суверэнных дзяржаў паставіў пад сумненне самастойны статус нашай краіны.

Цяпер тэкст дагавора праходзіць дакладную экспертызу ў камісіях ЕС. Канчатковае заключэнне яшчэ не зроблена, але, па цяперашняй інфармацыі, большасць экспертаў усё ж схільныя разглядаць дагавор паміж Расіяй і Беларуссю не як паўнацэнны «саюзны» дагавор, а як пратакол аб намерах. Аднак калі ў яго развіццё будуць прыняты іншыя «інтэграцыйныя» міждзяржаўныя акты, то ў вачах сусветнага супольніцтва Беларусь канчаткова страціць статус самастойнай дзяржавы.

*СІМ*

## Расійскія ўлады выкарыстоўваюць адмоўны прыклад Лукашэнкі

**У перадвыбарчай кампаніі Барыса Ельцына бяруць удзел не толькі лепшыя маскоўскія журналісты. Чарговым прапагандысцкім крокам стаў артыкул у «Известиях» мінскага карэспандэнта газеты Аляксандра Старыкевіча.**

Матэрыял з'явіўся на старонках выдання напярэдадні прыезда Барыса Ельцына ў Брэст. Хутчэй за ўсё, мэта публікацыі — на беларускім прыкладзе паказаць расійскім выбаршчыкам, што іх чакае ў выпадку перамогі камуністаў. Здаецца, яшчэ ніколі «Известия» — бадай што самая ўплывовая газэта суседняй дзяржавы — не давала такіх рэзкіх каментарыяў да падзеяў у Беларусі. Магчыма, гэта сведчыць пра тое, што калі выбары скончацца для Барыса Ельцына пасяпхова, то ягонае стаўленне да Аляксандра Лукашэнкі істотна зменіцца.

На гэта паказвае і вельмі прыязная рэакцыя з Крамля на артыкул А.Старыкевіча. Мэр Масквы Юрый Лужкоў даў яму высокую ацэнку на старонках саміх «Известий». Таксама, па інфармацыі СВАБОДЫ, высокапастаўлены супрацоўнік адміністрацыі Барыса Ельцына меў тэлефонную размову з мінскім карэспандэнтам «Известий», у якім выказаў падзяку за вельмі трапную і своечасовую публікацыю.

**М.Г.**

## Штраф за Адамовіча – 100 тысяч рублёў

**У Віцебску суд Чыгуначнага раёна аштрафаваў на 100 тысяч рублёў мясцовага жыхара Юрыя Мароза, які збіраў подпісы ў падтрымку Славаміра Адамовіча.**

20 чэрвеня Ю.Мароз стаў у пікет у цэнтры горада з плакатам: «...Злачынная ўлада трымае беларускага паэта і журналіста Славаміра Адамовіча ў засценках КДБ» — і заклікаў прахожых «выратаваць ні ў чым не вінаватага чалавека».

За паўгадзіны пад заявай да прадстаўніка ААН у Беларусі падпісалася 27 чалавек. Далейшы збор подпісаў спыніў нарад міліцыі. Мароза адвезлі спачатку ў РАУС, а потым — у суд, дзе яго аштрафавалі за «выкарыстанне недазволеных плакатаў». Ю.Марозу давядзецца сплочваць штраф з мізэрнай пенсіі, якую ён атрымлівае як інвалід з дзяцінства.

**Уладзімір СУПРАНЁНАК**

*ПАРЛАМЕНТ*

## Зарплата – трансплантацыя – Ганчар

**Чакаецца, што сёння (25 чэрвеня) Вярхоўны Савет зноў вернецца да разгляду інцыдэнта, звязанага з абстрэлам аўтамабіля дэпутата Ганчара.**

На сесіі ў мінулую пятніцу на гэтае пытанне часу не хапіла, паколькі парламент доўга дыскутаваў вакол праблемы аб наданні зарплаце статуса першачарговага плацяжу. Урэшце (пасля паўторнага галасавання) удалося юрыдычна замацаваць гэтую норму ў законе аб прадпрыемствах.

Потым дэпутацкі корпус добра павесяліў дэпутат ад камуністаў В.Шчукін. Падчас абмеркавання законапраекта аб трансплантацыі органаў і тканак чалавека таварыш Шчукін выказаў сваю занепакоенасць па-камуністычнаму проста і шчыра, заявіўшы літаральна наступнае: *«Я прошу мои яйца оставить при мне...»*

Затым дэпутаты аўральна зацвердзілі пагадненне аб парламенцкім Сходзе Супольнасці Беларусі і Расіі, а таксама персанальны склад беларускай дэлегацыі з 25 чалавек. У панядзелак яны выехалі ў Смаленск, дзе сёння павінна адкрыцца першая сесія гэтага дзіўнага Сходу.

*На здымку: дэпутат В. Шчукін*

Такім чынам, адсутнасць гэтых 25-ці дэпутатаў на сённяшнім паседжанні сесіі беларускага парламента можа істотна паўплываць на кворум, і магчыма, што «справу Ганчара» зноў давядзецца адкласці. Зрэшты, праект пастановы па гэтым пытанні нічога асаблівага не ўтрымлівае.

Праект складаецца з двух пунктаў. Першае: *«прыняць да ведама»*, што мінская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па факце начнога інцыдэнту, і абавязаць Генпракурора паведаміць Вярхоўнаму савету аб выніках следства. Другое: міністр Агалец і старшыня Вярхоўнага суда Каравай павінны паінфармаваць парламент *«аб выніках службовых расследаванняў правамернасці дзеянняў падпарадкаваных ім службовых асобаў, якія прымалі ўдзел у падзеях, звязаных з выкарыстаннем работнікам міліцыі зброі 14 чэрвеня 1996 г. для спынення аўтамашыны і з затрыманнем яе вадзіцеля»*.

**Раман ЮРЭВІЧ**

# Справа дэпутата Знаўца на гэтым тыдні павінна праясніцца

Праца створанай Вярхоўным Саветам часовай парламенцкай камісіі для расследавання факта аб затрыманні 26 красавіка Паўла Знаўца, якога, нягледзячы на дэпутацкі імунітэт, амаль суткі пратрымалі ў Цэнтральным РАУС сталіцы нібыта для высвятлення асобы, набліжаецца да лагічнага завяршэння. На гэтым тыдні камісія Мечыслава Грыба, нягледзячы на нежаданне «сілавікоў» даць ёй неабходныя матэрыялы, мяркуе зрабіць афіцыйнае заключэнне па выніках расследавання. А зараз па просьбе СВАБОДЫ **М.Грыб** каментуе ход дзейнасці ўзначальваемай ім камісіі.

— Камісія працуе ў трох накірунках. Першая група на чале з дэпутатам Нісцюком займалася ў Мінгарвыканкаме дазволамі на правядзенне дэманстрацый, маніфестацый і г.д. Другая група пад кіраўніцтвам Віктара Ганчара працавала ў Пракуратуры Рэспублікі, у пракуратуры Мінска. І трэцяя група на чале з Аляксандрам Дабравольскім працавала і працуе зараз у МУС, ва ўпраўленні ўнутраных спраў і Цэнтральным РАУС горада, куды Знавец дастаўляўся. Яны завяршаюць сваю працу. Хаця, канешне, нам складана (я і на сесіі пра гэта гаварыў) — нам не даюць неабходныя матэрыялы, сведчанняў людзей, якія мелі дачыненне да затрымання дэпутата, адцягваюць усе гэтыя мерапрыемствы, спасылаючыся адзін на аднаго.

**— Ці стрымаў міністр Агалец дадзенае на сесіі слова прадаставіць нарэшце ў камісію ўсе неабходныя дакументы?**

— Камісія пакуль не мае іх. Мне сёння (21 чэрвеня) Дабравольскі дакладваў: першы намеснік Агальца запэўніў, што матэрыялы ён падпісаў і накіраваў у мой адрас. Але я іх яшчэ не атрымаў.

*На здымку: дэпутаты М.Грыб і П.Знавец*

**— Ці можна з наяўных матэрыялаў зрабіць папярэднія высновы аб законнасці затрымання Паўла Знаўца?**

— Папярэднія высновы за камісію я рабіць не магу — магу сказаць ад сябе асабіста, як член камісіі. Выходзіць, што дэпутат Знавец быў затрыманы, дастаўлены ў РАУС і ўтрымліваўся там у парушэнне нашага заканадаўства

**Раман ЮРЭВІЧ**

СВАБОДА
25 чэрвеня 1996 г., № 46

# Цэнзарскія нажніцы ў руках акадэмікаў

На школьных экзаменах сёлета выпускнікі мусілі задаваць шчырае пытанне настаўнікам гісторыі: як адказваць — праўду ці «так, як трэба». Каму трэба? Напрыклад, дыпламаванаму гісторыку А.Лукашэнку, які летась заняўся ідэалагічнай пераробкай падручнікаў на стары савецкі лад.

Аднак не ўсе задаволеныя стараннямі прэзідэнта ў гэтай галіне. І вось у друку з'яўляецца «Адкрыты ліст да прэзідэнта РБ» пад доўгай і злавеснай назвай ў стылі 1937 года: «Работа по восстановлению исторической правды подвергается яростному сопротивлению со стороны национал-экстремистов, претендующих на истину в последней инстанции». Аўтараў абурае, што за гады існавання Рэспублікі Беларусь нарэшце пачала аднаўляцца гістарычная праўда. Ім хочацца ўсё вярнуць назад, калі гістарычная навука не выходзіла за рамкі «Краткого курса ВКП(б)». Іх абурае, што сумленныя гісторыкі называюць гвалтам тое, што цэнзура, як і ў былыя часы, жорстка выкасоўвае з падрыхтаваных да друку энцыклапедый цэлыя артыкулы.

Хто ж падпісаўся пад гэтым «крыкам душы»? Акадэмікі, члены-карэспандэнты, героі сацпрацы, лаўрэаты прэмій СССР, ад пераліку якіх ажно рабаціць уваччу. Большасць імёнаў нічога не гаворыць аматарам гісторыі. Іншыя дастаткова вядомыя, але выглядаюць у доўгім спісе прынамсі анекдатычна. Напрыклад, алімпійскі чэмпіён А.Мядзведзь. Моцны чалавек, барэц, але пры чым тут, прабачце, Аляксандр Македонскі і Францішак Скарына? Чытаеш тытулы іншых падпісантаў — і ўвогуле смех бярэ: заслужаны лётчык, вынаходнік... Але смеху тут, уласна кажучы, мала. У рэчышчы гэтай кампаніі Інстытут гісторыі спрабуюць выселіць з будынка Акадэміі навук за горад, у Шчомысліцу. Навошта? Каб навукоўцы не маглі працаваць у архівах і бібліятэках, каб не стваралі беларускія (а не савецкія) энцыклапедыі. Спрактыкаваныя аўтары ліста дакладна ведаюць, як ім дасягнуць сваёй мэты. Яны прапануюць, каб прэзідэнт асабіста зацвярджаў раду БелЭн, а само выдавецтва было падначаленае прэзідэнцкай адміністрацыі. А чаму б і не? Прэзідэнт жа мае ўжо сваю акадэмію кіравання. Мае ж адміністрацыя санаторыі і запаведнікі, дык няхай будзе і выдавецтва.

У гэтыя дні па тэлебачанні якраз была паказаная экранізацыя злавеснай утопіі англійскага пісьменніка Джорджа Оруэла «1984». Дык вось, супрацоўнікі гэтак званага міністэрства праўды займаліся ў фільме тым, што падтасоўвалі гісторыю. У газетных падшыўках яны выкасоўвалі лічбы, факты, імёны, фотаздымкі і замянялі іх іншымі, адпаведнымі бягучаму палітычнаму моманту. Усё гэта было і ў савецкай гісторыі — з падручнікаў выкідаліся імёны ўчорашніх сталінскіх паплечнікаў, расстраляных маршалаў, потым самога Сталіна, за ім — ягонага выкрывальніка Хрушчова. Сёння нашыя акадэмікі зноў прагнуць утварыць сваё «міністэрства праўды».

Вельмі сімвалічна тое, што ў адзін дзень з «адкрытым даносам» да прэзідэнта было апублікаванае канчатковае заключэнне першага намесніка Генеральнага пракурора У.Кандрацьева адносна Курапатаў. Нагадаю, што група «аматараў савецкай гісторыі» накшталт сённяшніх акадэмікаў і заслужаных вынаходнікаў запатрабавала, каб следчыя органы даказалі, што ў Курапатах дзесяткі тысяч бязвінных людзей былі расстраляныя не НКВД, а фашыстамі. Карацей, быў атрыманы палітычны заказ, каб падтасаваць факты і сфальшаваць гісторыю. Канчатковы адказ Пракуратуры рэспублікі, якая займалася гэтай справай некалькі гадоў, адназначны: расстрэлы ажыццяўляў НКВД. Праўда перамагла.

Так што, таварышы акадэмікі і кампанія, нічога ў вас не атрымаецца, а калі часова што і атрымаецца, дык потым у энцыклапедычных даведніках побач з вашымі тытуламі паявяцца і іншыя характарыстыкі: рэакцыянер, цемрашал, скажальнік гістарычнай праўды або штосьці падобнае. І гэты час абавязкова надыдзе.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ

Много говорится о «славянском единстве», «дружбе народов» и т.д. Меня интересует и беспокоит вот что: почему «славянская общественность» безмолвствует в отношении судьбы поэта С.Адамовича, находящегося непонятно за что под арестом и кто с ним сводит счеты? Где-то я читал, что при обыске редакции какой-то белорусской газеты была конфискована фотография, на которой запечатлена бывшая жена Адамовича вместе с Александром Григорьевичем Лукашенко...

Может, здесь «зарыта собака»?

**Николай БОРИСИК,** *г.Пинск.*

Здравствуйте, редакция СВОБОДЫ!

Люблю вашу газету, читаю, передаю другим людям. Ваша газета — как раньше радио «Голос Америки».

С уважением

КАЧАН Н.А., ***г.Борисов.***

Я не могу без чувства унижения и горечи смотреть белорусское телевидение, слушать наше радио и читать газеты. Передачи настолько примитивные, что складывается впечатление, будто мы, белорусы, действительно бездарные и недалекие люди. Но, наверное, есть и у нас все: и ученые с мировым именем и интеллектуалы европейского масштаба. Вот им и надо давать слово — их мнение, их мысли по различным вопросам жизни и нужно публиковать, чтобы формировалось нормальное общественное мнение.

С уважением **ДРОЗД Наталья Иосифовна,** *г.Гродно.*

Очень важно, чтобы кто-нибудь копнул тему варварского уничтожения лесов. У нас, в Бешенковичском районе, все вырубают — и зрелый лес, и незрелый. Раньше немцы лес рубили вдоль дорог, а теперь наоборот: наши вдоль дорог узкую полоску леса оставляют, а внутри массива — пусто.

**Валентина ТРАКУН,** *г.п.Бешенковичи, Витебская обл.*

Для кіраўнікоў нашай дзяржавы правы чалавека — як чырвонаяануча для быка. Адзін паплечнік Гітлера казаў у свой час, што калі ён чуе слова *культура,* дык ягоная рука цягнецца да рэвальвера. Так і ў нашых уладаў: як пачуюць выраз *правы чалавека* -- так адразу ж рука хапаецца за амоўнаскую дубінку.

**Анатоль Шаршнёў,** *юрыст, г.Мінск.*

Наш президент часто говорит, что он болеет за народ. Интересно было бы спросить у его врачей, что это за болезнь такая и как она называется. Может, она заразная?

**Дмитрий Полищук,** *г.Ельск, Гомельская обл.*

Чаму я чытаю СВАБОДУ? На гэтае пытанне магу даць тры адказы. 1) Таму што я чалавек. 2) Таму што я беларус, дрыгавіч. 3) Таму што, як і многія людзі на зямлі, я **люблю ўсё сваё** — родную зямлю, традыцыі, культуру, песні — і **паважаю чужое**.

**Віктар Коўзік,** *г.Глыбокае, Віцебская вобл..*



# Юбілей Магдэбургскага права адкладваецца

*Сёлета ў гісторыі Гродна вельмі важная дата — 500 гадоў надання гораду Магдэбургскага права*

У 1496 годзе вялікі князь Аляксандр Ягелончык, якога гродзенскі Сейм выбраў на вялікі пасад чатырма гадамі раней, даў гораду поўнае самакіраванне. Судовыя і адміністрацыйныя справы перадаваліся цалкам у кампетэнцыю гарадской рады.

Гэтая важная падзея, аднак, ніяк не будзе адзначацца. Забарона паступіла са сталіцы. Святкаваць 500-я ўгодкі збіраліся на пачатку ліпеня не ў Гродне, а ў вёсцы Берешты Шчучынскага раёна. Рэч ў тым, што ў XV—XVI стагоддзях у Берштах быў двор вялікіх князёў. Упершыню вёска ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах ад 1460 года. У 1496 годзе тут нават адбыўся чарговы Сейм Вялікага Княства Літоўскага. Якраз тады Гродна і атрымаў поўнае магдэбургскае права.

Святкаванне планавалася правесці напаўафіцыйнае. У Бершты меліся запрасіць члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Сямёна Домаша і старшыню Канстытуцыйнага Суда Валерыя Ціхіню, жонка якога родам з гэтай вёскі. Відаць, гэта чамусьці напалохала цэнтральнае кіраўніцтва. Арганізатарам адмовілі ў правядзенні свята мясцовыя ўлады — Шчучынская раённая «вертыкаль» і Берштаўскі сельсавет.

Канешне, гродзенскі юбілей можна перанесці і на іншы час, калі кіраўніцтва рэспублікі зменіцца. Ёсць жа і «запасныя варыянты». Напрыклад, першы прывілей на няпоўнае магдэбургскае права Гродна атрымаў 605 гадоў таму — у 1391 годзе, ад караля Ягайлы. Або ўзяць 2 лютага 1589 года, калі кароль Жыгімонт III пацвердзіў усе ранейшыя прывілеі, дадзеныя гораду. Аднак тады чакаць круглай даты давядзецца яшчэ доўга.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**



## ДАЙДЖЭСТ

# Перасадка сэрца болей непатрэбная?

**Доктар Рандас Батыста з невялікага гарадка Кампіна Грандэ дэ Суль на поўдні Бразіліі распрацаваў прынцыпова новую і пры гэтым адносна простую методыку кардыялагічных аперацый.**

Кардыяміяпатыя, або дэгенерацыя мускульнай тканкі сэрца, лічыцца невылечнай хваробай: тыя, каму пастаўлены гэты дыягназ, не маюць шанцаў пражыць больш за пяць гадоў. Адзіны сродак, які быў вядомы да гэтага часу, — перасадка сэрца. Напрыклад, у Злучаных Штатах робіцца больш за 2 тыс. такіх аперацый у год (аднак колькасць хворых ацэньваецца ў 3 мільёны чалавек), сярэдні кошт аперацыі перавышае 300 тыс. долараў. Р.Батыста прапануе іншы шлях — змяншэнне левай паловы сэрца шляхам выдалення пашкоджаных тканак. У выніку сэрца пачынае працаваць значна эфектыўней.

Батыста зрабіў больш за 300 такіх аперацый, першую — 12 гадоў назад (тая дзяўчына жыве і добра сябе адчувае). Праўда, 20 % пацыентаў Батысты памерла на працягу месяца пасля аперацыі, яшчэ 20 % — на працягу года, аднак гэтыя лічбы не перавышаюць паказчыкі смяротнасці пасля перасадак сэрца. Да несумненных перавагаў новага метаду адносіцца і тое, што хворыя не маюць патрэбы ў антыімунных сродках, якія падаўляюць рэакцыю непрыняцця перасаджанага органа, а таму захоўваюць адпорнасць да інфекцый. Методыкай Батысты зацікавіліся амерыканскія медыкі, і цяпер яна выпрабоўваецца і ўдасканальваецца ў кардыялагічных цэнтрах ЗША.

# Умейце радавацца!

**Даследаванні вучоных паказваюць: людзі, якія не ўмеюць радавацца жыццю, схільныя да дэпрэсіі і смутку, — хварэюць на рак у два разы часцей за тых, хто аптымістычны і адчувае сябе шчаслівым.**

На думку вядомага англійскага псіхатэрапеўта Ганса Эйзэнка, на падставе псіхалагічных рысаў асобы можна не толькі прадбачыць верагоднасць узнікнення раку, але і паспяхова папярэдзіць захворванне сродкамі псіхатэрапіі.

# Маніфестацыі абураных вернікаў

**На мінулым тыдні ў пакістанскім горадзе Равалпіндзі прайшлі шматтысячныя дэманстрацыі.**

Масавыя рэлігійныя маніфестацыі *(гл. здымак)* выклікаў факт здзеку са святой кнігі мусульманаў: 19 чэрвеня вырваныя старонкі з Карану знайшлі ў сцёкавай канаве. Прэм'ер-міністр Пакістана Беназір Бхута запатрабавала ад пракуратуры знайсці злачынцаў. Пакістан — ісламская рэспубліка; паводле законаў гэтай дзяржавы, за здзек з Карану пагражае пажыццёвае зняволенне, а за блюзнерства, зняважу Алаха — смяротная кара.

# Польскія страусы

**У Польшчы дзейнічаюць 25 фермаў, на якіх гадуюць афрыканскіх страусаў.**

Першая спецыялізаваная ферма ўзнікла ў 1993 г. Гэты бізнес мае перспектывы: у свеце высока цэняцца страусавае дыетычнае мяса, скура (з яе робяць эксклюзіўныя галантарэйныя вырабы — па фактуры яна падобная на кракадзілавую), яйкі і нават шкарлупіны, якія в ыкарыстоўваюць пры вырабе вытанчанай біжутэрыі. Пакуль што польскія фермеры не забіваюць птушак на мяса, бо на цяперашнім этапе галоўная задача — павелічэнне статка. Страусавае мяса, якое можна купіць у некаторых рэстарацыях і супермаркетах, імпартуецца пераважна з Ізраіля — краіны, дзе страусаў гадуюць шырока, але не ядуць, бо мяса гэтых птушак не кашэрнае.

Сёння на польскім рынку страусавае яйка (яго маса можа дасягаць 2 кг) каштуе 80 злотых (30 долараў), двухмесячнае птушанё — 1500 злотых (550 долараў).

# Павучымся дыхаць на Месяцы

**Амерыканскае касмічнае агенцтва *NASA* распрацоўвае праграму новых палётаў на Месяц.**

Гэтая праграма накіраваная не толькі на чыста навуковыя мэты, але і на вывучэнне магчымасці эксплуатацыі радовішчаў некаторых мінералаў на паверхні спадарожніка Зямлі. На думку спецыялістаў *NASA*, такія экспедыцыі маюць эканамічны сэнс, нават калі іх кошт перавысіць мільярд долараў. Плануецца стварэнне спецыяльнага касмічнага карабля, які зможа стартаваць толькі з арбітальнай станцыі, а не з паверхні нашай планеты. Праграма, між іншым, прадугледжвае выпрабаванне прынцыпова новай тэхналогіі здабывання кіслароду і вады з глебы Месяца. На думку вучоных, некалькі тон грунту цалкам маглі б забяспечыць аднаго касманаўта вадой і кіслародам на адзін год.

*Паводле матэрыялаў замежнай прэсы падрыхтавала*
**Магдалена НЕПАКАЙ.**

## Журналіста «папярэдзілі»

**У ноч з 20 на 21 чэрвеня бандыты напалі на кватэру журналіста Юрыя Дракахруста, мінскага карэспандэнта рускай службы радыё «Свабода».**

Сам Ю.Дракахруст у гэты час знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Польшчы.

Трое невядомых нейк адчынілі дзверы, увараліся ў кватэру, моцна збілі жонку журналіста. Пры гэтым бандыты некалькі разоў паўтарылі, што пра іх візіт яна абавязкова павінна расказаць мужу. Калі Галіна Дракахруст страціла прытомнасць, яе аднеслі ў ванну, уключылі ваду і зніклі.

На думку Ю.Дракахруста, гэты напад не мае нічога агульнага са звычайным бандыцкім крыміналам: начныя «госці» не забралі ніякіх рэчаў ці каштоўнасцяў. Журналіст лічыць, што нехта такім чынам спрабуе яго запалохаць. Але хто? Зрэшты, можна здагадвацца, каго раздражняюць Дракахруставы рэзкія публікацыі ў друку і паведамленні ў эфіры аб сённяшняй палітычнай сітуацыі ў краіне.

Валодзя ЯНЧУК

## Пашкоджаны Ленін

**Невядомыя папсавалі адзін з 5 помнікаў Леніну, што стаяць у Магілёве.**

Хутчэй за ўсё, гэта былі гандляры бронзай. Яны паадпілоўвалі кавалкі з чаравікаў правадыра сусветнага пралетарыяту і абламалі некалькі пальцаў з традыцыйна працягнутай рукі, але ўбачылі, што статуя гіпсавая. Цяпер улады не ведаюць, што рабіць з помнікам: на рамонт няма грошай, а выкідаць — ідэалагічныя прыхільнасці не дазваляюць. Так і стаіць «пакалечаны» заснавальнік савецкай дзяржавы.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

## Суперкрадзеж

**Са шклозавода «Кастрычнік», што ў мястэчку Ялізава Магілёўскай вобласці, невядомыя скралі плацінавых дэталяў на 2 млрд. 130 млн. рублёў (!).**

Злодзеі ўночы прабраліся на тэрыторыю прадпрыемства і ўзламалі дзверы спецчасткі. Цікава, што пры гэтым спрацавала сігналізацыя, але вартаўнік праверыў толькі адно памяшканне, дзе нічога каштоўнага не было.

Іван ЗАСАДА

## Сіроты пры жывых бацьках

**З пачатку гэтага года ў радзільных дамах Віцебска больш за 30 жанчын адмовіліся ад сваіх дзяцей. За ўвесь мінулы год пакінутых немаўлят было 41.**

Факты сведчаць, што апошнім часам пачалі выракацца дзяцей не толькі маладыя маці-адзіночкі, але і сямейныя пары, якія ўжо маюць дзяцей.

Тамара СЁМУХА

# Выбух на вуліцы Усходняй

*Жахлівае забойства было ўчынена на мінулым тыдні ў Мінску*





Гэта здарылася ў чацвер 20 чэрвеня а 16-й гадзіне непадалёку ад універсама «Рыга» на вуліцы Усходняй. Ад падкладзенай бомбы ўшчэнт разляцеліся «жыгулі» дзявятай мадэлі і загінуў адзін чалавек.

Выбух быў настолькі моцны, што нават павыляталі шыбы ў суседнім шматпавярховым доме. Карэспандэнты СВАБОДЫ прыбылі на месца здарэння аднachасова з брыгадай «хуткай дапамогі». Дапамога медыкаў, аднак, не спатрэбілася — ад чалавека засталіся толькі абвугленыя парэшткі *(гл. здымак)*.

Пазней нам удалося высветліць некаторыя звесткі пра забітага. 35-гадовы Валерый Шалаеў быў вядомым «аўтарытэтам» у сталічных крымінальных колах. Фармальна ён лічыўся вадалазам на выратавальнай станцыі «Цнянская», але асноўным відам дзейнасці быў рэкет. «Шалай» стаяў на чале адной з крымінальных груповак, якая кантралявала Камароўскі рынак, збірала «падаткі» з камерсантаў.

Хутчэй за ўсё Шалаеў стаў ахвярай крымінальных разборак. А магчыма, ад яго нехта хацеў пазбавіцца і па іншых прычынах. Рэч у тым, што ў машыне былі знойдзеныя абгарэлыя паперы з заявай у Вярхоўны суд. Так ці інакш, але з ім расправіліся жорстка. Эксперты адзначаюць, што бомба была падкладзена пад днішча «жыгулёў».

Анатоль МІРСКІ

*На здымках: гэта ўсё, што засталося ад аўтамабіля і ахвяры. Выбух адбыўся ў той момант, калі В. Шалаеў сеў за руль.*

**СПОРТ**

# Феміда – прадажная ці сляпая?



*ФУТБОЛ:* **EURO'96**

Нейк непрыкметна наблізіўся да фінішнай рысы еўрапейскі чэмпіянат. Ужо вызначыліся яго лаўрэаты. Тры матчы, які яшчэ засталіся, вызначаць іх парадкавы нумар ў выніковай класіфікацыі і сумы належных прэміяльных. Але незалежна ад канчатковага размеркавання месцаў футбалістаў Германіі, Чэхіі, Англіі і Францыі ўжо можна павіншаваць.

Англічане і французы прабіліся ў паўфінал толькі пасля адзінаццаціметровай латарэі, якой папярэднічалі двухгадзінныя бітвы з іспанцамі і галандцамі. Прычым у кожнай з іх фатальную ролю адыгралі арбітры. Француз Марк Бата і ягоныя асістэнты добра разумелі, што залічыць гол Аморы — значыць фактычна пахаваць зборную гаспадароў. Ужо ў першым туры пенальці Марцін Ера з усёй сілы б'е ў перакладзіну. Апошнія надзеі развеяў англійскі варатар Дэвід Сімэн, які адбіў удар Мігеля Надаля. Тыднем раней Сімэн парыраваў мяч, адпраўлены з 11-метровай адзнакі шатландцам Мак-Калістэрам.

Матч Францыя—Галандыя яшчэ раз прымусіў успомніць аб адсутнасці Эрыка Кантаны. Лока на месцы цэнтрфорварда дзейнічаў няўдала; Дзюгары, які замяніў яго, уключыўся ў гульню, але быў «падсечаны» і заменены Педрасам, намаганні якога разбіваліся аб галандскую абарону. Джаркаеф і Зідан вельмі стараліся, але (кожнаму — сваё!) патрэбны быў Эрык. Французы, магчыма, крыху больш, чым галандцы, заслугоўвалі перамогу, але шанцаў прайграць у іх было больш. За некалькі хвілін да канца асноўнага часу матча Дэсаі ў сваёй штрафной згуляў рукой. Арбітр Антонія Лопэс Ньета (Іспанія) дакладна зафіксаваў парушэнне.

Успомнілася, як у першым матчы чэмпіянату суайчыннік Ньета — Мануэль Дыяс Вега — у такой жа сітуацыі, не вагаючыся, прызначыў 11-метровы ў вароты англічан. Таму, відаць, цяпер не судзіць.

Галандзец Зеедорф выходзіць сам-насам з варатаром Лама, але трапляе ў галкіпера. І зноў дадатковы час, зноў — серыя пенальці. Па тры ўдары — дакладна. Чацвёрты — Зеедорф. Ён вельмі хацеў забіць, але быў асуджаны на няўдачу. Дзіўна, што трэнер Хідынк гэтага не зразумеў.

*22 чэрвеня. Англія—Іспанія — 0:0, 4:2 па пенальці. Францыя—Галандыя — 0:0, 5:4 па пенальці.*

Нядзельныя матчы прайшлі вынікова і скончыліся своечасова. Асобных намаганняў таленавітых хаўбекаў футбалістаў было яўна недастаткова, каб прыпыніць адпрацаваны механізм германскай зборнай. Вызначыліся Клінсман (з пенальці), Замер і харват Шукер. Заўважце, што ўсе яны — лідэры сваіх зборных. Але ў гэтым матчы не абышлося без судзейскіх памылак (ці сімпатый?!). Таго ж Шукера груба блакіравалі ў штрафной, але шведскі арбітр гэтага «не ўбачыў».

Чацвёртым паўфіналістам стала каманда Чэхіі, якая перадолела партугальскі бар'ер — 1:0. Чэхі зноў паказалі сябе валявым калектывам, здольным навязаць сваю гульню нават высокатэхнічным партугальцам. Тактычная вывучка каманды заслугоўвае самай высокай ацэнкі: кожны ігрок дакладна ведае, што павінны рабіць на полі. Учэпістая гульня ў адборы, дакладная перапасоўка, імклівыя рэйды па фланагх крайніх абаронцаў і паўабаронцаў з кінжальнымі прастрэламі ў штрафную, атлетычная гульня нападаючых. Адзіны гол, забіты Паборскім, быў такім жа прыгожым, як і той, што забіў Кука ў вароты расіян. Абыгрываючы на высокай хуткасці трох-чатырох сапернікаў, Паборскі заўважыў, што варатар Байя далёка выйшаў з варот і, падчапіўшы мяч наском, зграбна перакінуў яго праз абаронцаў і варатара.

*23 чэрвеня. Германія—Харватыя — 2:1. Чэхія—Партугалія — 1:0.*

У французаў у паўфінале будзе шмат праблем. Улічваючы ўсё раней сказанае, належыць аддаць некаторую перавагу чэхам. У другім паўфінале (Англія—Германія) фаварытамі з'яўляюцца немцы. Большасць спецыялістаў лічыць, што менавіта яны і стануць чэмпіёнамі.

**КУБАК ІНТЭРТАТО: АТАКА БЕЗ АЎРЫ**

Матчам ў Маладзечне супраць валгаградскага «Ротара» дэбютавала ў еўрапейскім турніры мінская «Атака-Аўра». Нягледзячы на разгром — 0:4, мінчане пакінулі някепскае ўражанне. Не забудзем: «Ротар» у апошнім розыгрышы Кубка *UEFA* выбіў з калiяны самога «Манчэстэр Юнайтэд», у той час калі «Атака» яшчэ год назад гуляла ў другой лізе беларускага чэмпіянату.

*МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА:* **ЗАЛАТАЯ СКАКАЛКА**

Чарговы залаты медаль чэмпіёнкі свету заваявала ў практыкаваннях са скакалкай Ларыса Лук'яненка. У Будапешце, дзе прайшоў чэмпіянат, Ларыса здабыла яшчэ і срэбра ў практыкаваннях з мячом. А дапоўніў камплект бронзавым медалём нашыя дзяўчаты ў групавых практыкаваннях.

*СУЧАСНАЕ ПЯЦІБОРСТВА:* **НАРЭШЦЕ — ПЕРШАЕ!**

Гамяльчанка Жана Шубянок стала чэмпіёнкай свету. Узнагароджаны шматгадовыя намаганні трэнера і спартсменкі, якая неаднойчы займала прызавыя месцы на чэмпіянаце свету.

*ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА:* **ХЭЛОЎ, ДЖОНСАН! ГУДБАЙ, МЕНЕА!**

У Атланце на перадалімпійскіх спаборніцтвах амерыканскіх лёгкаатлетаў быў пабіты самы стары сусветны рэкорд — у бегу на 200 метраў. Майкл Джонсан адолеў гэтую дыстанцыю за 19,66 секунды, што на 0,06 секунды хутчэй за дасягненне італьянца П'ера Мензэ, якое было ўстаноўленае ў 1979 годзе.

Сямён ПЛОЦ

## «Гуманныя» забойцы

**У Крычаве арыштаваныя трое рэкецiраў, якія няўдаўна па-зверску расправіліся з сям'ёй мясцовых камерсантаў.**

Злачынцы ўночы ўварваліся ў кватэру прадпрымальнікаў і застрэлілі з пісталета мужа і жонку Цыбульскіх. Іх трохгадовая дачка не пацярпела.

Іван ЗАСАДА

## Хто з'еў мяса?

**У Быхаве ўзбуджаная крымінальная справа аб крадзяжы ў асабліва буйных памерах. Невядома куды знікла 9 т ялавічыны коштам у 100 мільёнаў рублёў.**

У справе фігуруе нядаўні кіраўнік мясцовага райспажыўсаюза. Ягоная кантора выпісвала фіктыўныя накладныя на горацкае ТАА «Мір», але мяса туды не траплялa. Следства высвятляе, куды на самой справе падзелася ялавічына.

Іван ЗАСАДА

## Футбольна-фінінсавы скандал

**Кантрольныя службы Бабруйска выявілі незаконныя аперацыі з матэрыяльнымі каштоўнасцямі і расходванне буйных грашовых сум (на дзесяткі мільёнаў рублёў) у футбольным клубе «Бабруйск».**

Як паведаміла магілёўскае абласное радыё, заразумчанасць клуба прадпрыемствам, у якіх ён без папярэдняй аплаты браў тавар, і банкам-крэдыторам перавысіла 3 мільярды рублёў. У апошнія гады клуб пераходзіў з рук у рукі, але так і не займеў сталага гаспадара. Ягоны былы дырэктар, супраць якога ўзбуджаная крымінальная справа, знік, яго шукае міліцыя.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

## Злодзеі-бязбожнікі

З касцёла ў Асіповічах злачынцы скралі 2 абразы і культавае начынне.

Іван ЗАСАДА



## Балота здрадзіла злачынцам

**У Клічаўскім раёне затрыманыя 5 злодзеяў.**

За апошнія месяцы яны абрабавалі чатыры вясковых крамы, а скрадзенае хавалі ў балоце. Міліцыя затрымала злачынцаў, калі яны спрабавалі ўратаваць сваё дабро, якое пачало ўсплываць на паверхню.

Іван ЗАСАДА

Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 42.000
Нумар падпісаны ў друк 24.06.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 249